**Будславу і Будслаўскаму касцёлу** (*апошні першапачаткова* з'яўляўся **драўлянаю капліцаю бернардзінцаў**) – **500-гадоў! Віншуем жыхароў Будслава, каталіцкіх і уніяцкіх (і усіх ахвочых) вернікаў, аматараў гісторыі і культуры з юбілеем!**


***…найлепшыя гады Беларусі ўсё ж наперадзе…***

В. Быкаў

# Скарб думак

*Незалежнае рознабаковае выданне*

**№ 7 (16).**

**АЎТОРАК**

**27**

**КРАСАВІКА 2004 ГОДА**


**Гістарычная даведка.**

Назва **Будслаў** упершыню выкарыстоўваецца ў гістарычных крыніцах ВКЛ пад 1504 г. Вялікі князь ВКЛ Аляксандр у гэтым годзе падараваў **мясцовасць** віленскім манахам-бернардзінцам. На гэты час манахі тут мелі ўжо драўляную капліцу. У 1591 г. яны пабудавалі драўляны касцёл. У ім з 1598 г. знаходзіўся прывезены з Рыма Я. Пацам цудатворны абраз Маці Боскай. Гэта быў падарунак папы Клімента VIII.

2 ліпеня штогод шырока адзначаецца Свята Будслаўскага абразу Маці Боскай.

Будславу - 500!

**Усіх чытачоў (выпадковых і не толькі) з разнастайнымі святамі (сваімі альбо агульнымі) віншуе рэдакцыя "Скарбу Думак"! Рабіце свае справы на карысць Беларусі! Будзьце ўпартымі ў дасягненні сваіх мэтаў! Здзяйснення вашых мараў і ўсяго вам найлепшага!**

## *Сёння ў нумары:*



## ***…найлепшыя гады Беларусі ўсё ж наперадзе…***

*Васіль Быкаў*

Дзень добры, шаноўныя чытачы!

Вы трымаеце ў руках новы нумар «Скарбу Думак»! У ім – разнастайныя матэрыялы дзеля асэнсавання нашага існавання.

Некаму з вас яны, спадзяюся, стануць крыніцай нараджэння новых думак, новых твораў, новых ідэяў. Яны – нашыя новыя думкі, творы, ідэі будуць спрыяць росквіту нармалёвага жыцця ў нашае Беларусі.

Дарэчы, *існуючае жыццё* (хутчэй за ўсё для большасці, на жаль, *пакуль існаванне*) вакол нас проста абурае. Беларускамоўныя групы ў дзіцячых садках з расійскамоўнымі выхавацелямі; дзядзькі і цёткі з цыгаркамі, якія дымяць на дзяцей і абураюцца наконт заўвагаў; брыдкаслоўе шматлікіх «асобаў» рознага ўзросту паўсюль, у тым ліку на пляцоўках школаў і нават дзіцячых садкоў…

Шматлікія праблемы і неспрыянне вырашэнню іх прадстаўнікамі ўлады вымушаюць неабыякавых Асобаў аб'ядноўвацца. Будзьма разам!

*Міхась Лебедзь*

РАСКАЗВАЕ ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

„НІВА" 17.VII.1988 г.

## паходня – гэта агонь

Спрадвеку, калі толькі чалавек навучыўся карыстацца агнём, **паходня** вызначала яму шлях сярод начной цемры. І ў наш час, у час тэхнічнай рэвалюцыі ды няведаных здабыткаў навукі, душа чалавека астаецца загубленай сярод заблытанасці колішніх і сучасных вельмі ж складаных праблем, яна патрабуе вядучага святла, гэтага першапачатковага агню, прамяністай паходні. Каб пранікнуць у істоту справы, каб не аглохнуць ад напорыстай напластоўкі чужога, каб дакапацца да асноўтаго духоўнага гмаху, у якім расла самабытная культура нашых дзедаў-прадзедаў, — дзеля гэтага неабходна светаводная паходня.

Вось такая радаслоўная і ў гродзенскай „Паходні". Пад гэтай эмблемай рэкамендуецца **гісторычна-культурны самадзейны клуб.** Гродзенская паэтка **Данута Бічэль-Загнетава** расказвае:

— 12 красавіка 1986 года ў гарадскім Доме культуры ў Гродне сабралася група маладых, але ўжо высока адукаваных, свядомых людзей, пераважна супрацоўнікаў Гродзенскага філіяла Акадэміі Навук БССР. У нас у Гродне знаходзіцца Інстытут біяхіміі, якім кіруе **Юрый Міхайлавіч Астроўскі.** Ён, зразумела, у гэтым першым сходзе не ўдзельнічаў, але пазней некалькі разоў я бачыла яго на розных іншых сесіях клуба „Паходня".

— Ці гэтую дату, 12 красавіка 1986 года, можна лічыць фармальным пачаткам існавання „Паходні" ў Гародні? — пацікавіўся я.

— Безумоўна, так, — рашуча сцвердзіла Данута Янаўна, а я тут жа падумаў пра іншую гістарычную падзею, якая на векавечна зраслася з датай 12 красавіка. У гэты дзень 1961 года чалавек упершыню адарваўся ад сваёй маці-Зямлі. Юры Гагарын паходню чалавечага розуму занёс у касмічную вышыню, каб пасля 108 мінут зноў вярнуцца да людзей. Не ведаю, ці гродзенскія „паходнеўцы" спецыяльна падабралі гэты дзень, каб адзначыць 25-ую гадавіну касмічнай эры, ці проста склікалі яны свой сход таму 12 красавіка 1986 года, што была гэта субота, дзень, свабодны ад прафесійных заняткаў. Данута Янаўна неяк таксама не звярнула асаблівай увагі на гэтае проста сімвалічнае супадзенне дзвюх дат. Яна працягвала свой расказ:

— Вось тут адразу сярод прысутных сваёй энергіяй і разважлівасцю вылучыўся **Мікола Таранда,** кандыдат біялагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута Біяхіміі Акадэміі Навук БССР, член Кампартыі Беларусі. Ён і стаў адказным сакратаром гістарычна-культурнага клуба „Паходня".

У першым пасяджэнні ўдзельнічала каля 20 чалавек — дзяўчат і хлопцаў, пераважна яшчэ незамужніх і нежанатых, ва ўзросце 25-35 гадоў. Аб'ядноўвала іх адно жаданне: даведацца пра тое, чаго аб бацькаўшчыне і аб народзе не вучылі іх у школе ды і ў вышэйшых навучальных установах. І ўжо ў час гэтага першага, бадай, гістарычнага пасяджэння, выявілася патрэба запрасіць у правадыры чалавека, які ведаў бы куды кіраваць святло гэтай іхняй паходні. Выбар быў просты. У Гродне жыве і працуе ва універсітэце выдатны археолаг і знаўца мінулага беларускай зямлі — Міхаіл

***/Працяг на стар. 4/***

*Чахай жыцьцё ўквецiцца надзеяй,
Душа – каханнем, існасьць – добрай песняй.*

# Творчасьць

**Песьня-Звон**

Гэй, ты, маці, родна мова,
Гэй, ты звон вялікі, слова,
Звон магучы,
Звон бліскучы,
З срыбра літы,
З злота зьбіты,
Загрымі ты,
Загрымі!

Гэй, званар, званар, мой пане,
Бі у звон, як змогі стане,
Без спачынку,
Бяз упынку,
Потам зьліты,
Ім умыты, -
Бі, звані ты,
Бі, звані!

Гэй, гусьляр, пясьняр, мой браце,
Грай, сьпявай у полі, ў хаце,
Дзе гарота,
Дзе галота,
Дзе нясыты,
Дзе няўмыты, -
Ім спыні ты,
Жаль спыні!

Струны хай грымяць і рвуцца
З болю, з гневу; хай сьмяюцца,
Разам зь імі,
Ня чужымі, -
Голас чысты,
Залацісты,
Зь імі зьлі ты,
Зь імі зьлі!..

Алесь Гарун 1912

*Узята з выдання: "Матчын дар" (Нью-Ёрк – Мюнхен, 1962/*

# Самвыдат 1987: "БУРАЧОК"

(заканчэнне перадруку, пачатак у №№ 2-6 «Скарбу Думак» за гэты год)

24

Пра якое сумленьне гэтага недаробка можна казаць, кал1 ён ахвяраў фашызму зап1свае ў памагатыя!

У свaёй сабачай, беспрычыннай лютасьц1 Божка часта даходз1ць да абсурду. Ён лёгка ператварае беларуск1 музэйна-б1бл1ятэчны комплекс 1мя Ф.Скарыны ў Лондане ў англа-амерыканскую "шп1калоўку", "базу для звычайнай шп1ёнска-дыверс1йнай школы". 1 усё гэта без адз1нага доказу. Доказаў у кудлы няма. Кал1 з няўгодных яму людзей, як1х ня стала яшчэ ў 20-я гады ён роб1ць фашыстоўск1х злачынцаў, дык чаму ж з бел. культ. цэнтру за мяжой не зраб1ць "шп1калоўку"? Ланцуг дазваляе, плот баран1ць. Нават збор у гэтым цэнтры нашых культ. каштоўнасьцяў, раск1даных па сьвеце, за грошы беларусаў-эм1грантаў кудла мянуе "здрадн1цтвам"...

Шалее Божка, пхнецца захаваць голас, паставулены ў "Стал1нск1м шляху". Але ад старасьц1 ўжо вышмальцавалася шкура, скрышыл1ся зубы, заплятаецца язык. Нядоўга яму засталося смуродз1ць паветра. Дык стараецца кудла адбрахацца, адслужыць м1ску пал1ўк1 ды саламяны падсьц1л. Каму тольк1?.

Ужо зараз мала хто згадвае пра паэтычную "творчасьць" кабздоха, а пройдзе трох1 часу 1 яго адцягнуць за ашыйн1к на сьметн1к, выграбуць спарожжы 1 блявоцьце, каб не сьмярдзела. 1 доўга яшчэ людз1 затыкнуўшы насы будуць абыходз1ць той сьметн1к ды стрымл1ваць дзетак, каб не хадз1л1 туды, бо там – ПАДЛА.

уў

**Пан Міністар**

*/Урывак з п'есы/*

Акт II

Зьява 3 (*урывак*)

Люба і Мікола.

Мікола (*уваходзіць*). Добры дзень, панна Любачка! (*Цалуе яе рукі*).

Люба (*пабачыўшы яго, спалохалася*). Што вы зрабілі? Як вы важыліся прыйсьці!.. Хутка ўжо вернецца дзядзенька і вам ізноў прыдзецца хавацца, як тады ...

Мікола. Ня турбуйцеся!.. Ваш дзядзенька сам мяне прасіў, каб я сюды прыйшоў.

Люба (*страшэнна зьдзіўленая*). Сам прасіў?!

Мікола. Але. Я буду яго вучыцелем беларускай мовы і сягоньня будзе першая лекцыя.

Люба. Ах, як гэта добра!.. Але як-жа ж гэта сталася? Вы-ж ня былі знаёмы з маім дзядзенькай.

Мікола. Усё гэта наладзіў мой прыяцель Скакун... А вы, Любачка, рады, што гэткім чынам будзем кожны дзень бачыцца?

Люба, Ах, я рада.

Мікола. О, мілая! (*Працягвае да яе рукі*).

Люба. Ах, не, не! толькі не цалуйце, бо мне неяк-так ... нязручна ...

Мікола. Дарагая мая! Няўжо-ж вы так ня любіце мяне, што вам навет прыкра, калі я цалую вашу ручку?

Люба. Не, я гэтага не кажу ... Я наадварот ... Я вас ... я вам ... вы мне ... Ну, я ня ведаю, як сказаць!

Мікола. Скажэце мне, ці вы хоць крышачку мяне палюбіце, бо я ... бо я ... Да таго часу, як я вас спаткаў і адважыўся на вуліцы падыйсьці да вас, я валачыўся ўсюды за вамі сьледам, як сабака, а вы мяне ня бачылі. Вы заўсёды хадзілі разам са сваім дзядзенькай, а я чакаў той хвіліны, калі спаткаю вас адну. І вось прычакаўся, і падыйшоў тады да вас. Але я навет не лятуцеў тады аб гэтакім вялікім шчасьці, што буду мець магчымасьць прыходзіць тут кожны дзень і бачыць вас, і гутарыць з вамі! І вось я тут, я гляджу ў вашы вочкі... о! не апускайце іх! я хачу глядзець ў гэтыя зорачкі ясныя, якія завядуць мяне на загубу, або да найвялікшага шчасьця ... Ну, паглядзеце на мяне! я хачу прачытаць у вашых вачох свой прысуд: ці шчасьце, ці загуба?

Люба (*спусьціўшы вочы, саромліва*). Калі мне сорамна.

Мікола. Любачка мая! Птушачка! Чаму салавейка, як закрасуецца вясна, не сароміцца ў кустох бэзу пяяць сваю песьню каханьня? Чаму кветкі не саромяцца напаўняць паветра сваім пахам? Чаму рэчка не сароміцца шумець хвалямі аб прыбярэжнае каменьне? Ці ёсьць на сьвеце штоколечы прыгажэйшае, сьвятлейшае за любоў? Што дае нам найвялікшае шчасьце, калі ня любоў. Любіць і быць любімым - вось радасьць жыцьця!.. (*сумна*). Але любоў бывае вялікім няшчасьцем, калі той, каго мы любім, нас ня любіць.

Люба. Але кажуць, што, каб любіцца, трэба добра пазнацца, а мы-ж яшчэ гэтак мала знаёмы.

Мікола. Дзетачка! Любоў не ўзгадоўваецца гадамі, а родзіцца раптам, мамэнтальна, як маланкай спаліць... Мігне маланка, загрыміць грымот, ударыць пярун - і зваліцца на зямлю самае магутнае дрэва... Гэтак і любоў: адзін мамэнт, адзін пагляд – і чалавек увесь загарэўся каханьнем... Як ўбачыў я вас першы раз, адразу мяне нішта ўшчаміла за сэрца, і я ў душы сваёй ня меў ужо супакою ... Любачка! я-ж люблю вас, як ніколі яшчэ ня любіў; скажэце мне адно слова, дайце мне хоць кроплю надзеі ... або не! Лепш нічога не кажэце, гляньце толькі на мяне сваімі яснымі зорачкамі, а я ў іх прачытаю ўсю праўду.

Люба (ня гледзячы на яго, лёгка да яго пахіляецца).І са мной нешта гэткае самае дзеецца, як з вамі...

Мікола (абыймае яе і горача цалуе). О, Любачка! Дарагая! Адзіная!..

*Узята з выдання: Францішка Аляхновіча "Пан Міністар" (Вільня, 1924)*

